*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года**

**№ 31 (1286) 3 ЖНІЎНЯ 2016 г.**

## Беларуская моладзь праявіла сябе ў Кракаве



Сусветныя дні моладзі праходзілі ў Кракаве з 25 па 31 ліпеня. У іх удзельнічалі прадстаўнікі Беларусі з усіх парафій.

600 тысяч каталікоў са 187 краін свету прыбылі на сустрэчу з Папам Рымскім Францішкам. Адметна, што падчас прэзентацыі шасці кантынентаў еўрапейскую частку Еўразіі прадстаўляла беларуска Наталля Скіпар - салістка музычнага тэатра ў Любліне, выпускніца аддзялення музыкалогіі Каталіцкага ўніверсітэта ў Любліне. Канцэпцыяй прэзентацыі былі абраны аповеды пра святых - па адным на кожны з кантынентаў. Прадстаўнікі кантынентаў былі апрануты ў стылізаваныя нацыянальныя строі тых рэгіёнаў, якія яны прадстаўлялі.

Беларуская дзяўчына, якая мае класічнае меца-сапрана, выканала кароткі спеў на беларускай мове, у якім распавядалася пра ўклад св. Вінсэнта дэ Поля ў распаўсюджванне Божай міласэрнасці ў Еўропе.

Такім чынам, прадстаўленне Еўропы перад удзельнікамі СДМ і Папам Рымскім адбылося па-беларуску. Паўночная Амерыка ў сваю чаргу была прэзентаваная па-англійску, Паўднёвая Амерыка - па-іспанску, Азія - па-армянску, Афрыка на мове суахілі, а Аўстралія на мове маёры.

Папа Францішак наведаў мемарыял "Аўшвіц-Біркенаў", дзе ўшанаваў памяць ахвяраў нацызму і сустрэўся з 15-ю вязнямі, якія выжылі ў Асвенціме. Сярод вязняў, з якімі сустрэўся пантыфік, была Хелена Дуніч-Нівінска - былая віяланчалістка ў аркестры канцлагера. Цяпер ёй 101 год.

Пантыфік наведаў Універсітэцкі дзіцячы шпіталь у Кракаве, дзе сустрэўся з маленькімі пацыентамі, іх бацькамі і медыцынскім персаналам. Папа Францішак нагадаў пра неабходнасць быць бліжэй да людзей, а таксама пра ўмацаванне сувязі маладога пакалення з бабулямі і дзядулямі, якія былі і застаюцца асноўнай крыніцай і прыкладам веры.

29 ліпеня ў кракаўскім касцёле св. Максімільяна Кольбэ прайшла імша для беларускіх удзельнікаў Сусветных дзён моладзі, якую цэлебраваў Мітрапаліт Менска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. У імшы прынялі ўдзел каля тысячы чалавек - каталіцкая моладзь з розных куткоў Беларусі.

29 ліпеня ў кракаўскіх Блонях прайшоў Крыжовы шлях, пабудаваны ў форме эклектычнай пастаноўкі, якая, паводле арганізатараў, была не толькі апошняй дарогай Хрыста, але і прадстаўляла яе як дарогу Міласэрнасці.

14 прыпынкаў былі спалучаны з учынкамі міласэрнасці для душы і для цела, распавядаючы пра праблемы, з якімі сутыкаецца сучасная моладзь: беднасць, голад, цярпенне, вызваленне ад граху, адзінота і інш.

Галоўную ролю, ролю Езуса Хрыста, у першым прыпынку выканаў беларус Максім Вайцюль - выпускнік дзяржаўнай балетнай школы ў Менску, а сёння - першы саліст Нацыянальнага балета Польшчы і ўдзельнік тэатральнай музычнай узнагароды імя Яна Кіпюры як лепшы танцор у Польшчы.

У працоўным багажы Максіма Вайцюля - партыі ў такіх балетах як "Рамеа і Джульета", "Лебядзінае возера", "Ганна Карэніна", "Спячая каралеўна", "Жызель", "Чыпаліна", "Тры мушкецёры" і інш.

Дапаможны біскуп Гарадзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі ў гаміліі адзначыў, што праз беларускую моладзь, якая прыехала на СДМ - моладзь, якая радуецца і моліцца, спявае і танчыць, якая гучна ўсклікае: "На Беларусі Бог жыве!" - можна складаць вобраз Касцёла ў Беларусі і Паўсюднага Касцёла.

Кс. Антоні Грэмза, галоўны каардынатар паездкі беларускай моладзі на СДМ-2016, прызнаўся, што пасля паездкі на СДМ у Кёльн у яго з'явілася ідэя заснаваць у Беларусі моладзевы рух "OPEN". Яго ідэя паспяхова рэалізавалася.

*Э. Дзвінская,*
*па матэрыялах СМІ.*

ISSN 2073-7033



## 90 гадоў з дня нараджэння Янкі Запрудніка




**Янка ЗАПРУДНІК**, да 1946 Сяргей Вільчыцкі (нар. 9 жніўня 1926 г. у мяст. Мір; псеўданімы і крыптонімы: Я. З., З., Сяргей Ясень, С. Ясень, С. Я., Аркадзь Будзіч, А. Б., Арсень Загорны, А. З., Рыгор (Ягор) Ліцьвін, Р. Л., Т. Смаленскі, М. Беластоцкі) - беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, палітолаг.

У гады нямецкай акупацыі Сяргей Вільчыцкі закончыў у Міры пачатковую школу (1942), затым у Баранавічах - прагімназію і тры курсы (з чатырох) гандлёвай школы (1943-44). Належаў да Саюза беларускай моладзі. За месяц да капітуляцыі Германіі быў пераведзены ў дывізію "Беларусь" (пад камандаваннем Францішка Кушаля), якая напрыканцы красавіка 1945 перайшла ў Баварыі да амерыканцаў. Да траўня 1946 знаходзіўся ў лагеры ваеннапалонных у амерыканскай зоне акупацыі. Давялося "згубіць" дакументы і стаць Янам Запруднікам. У лагеры для перамешчаных асоб дзейнічала Беларуская гімназія імя Янкі Купалы, якую Янка Запруднік скончыў у 1947 г. У студзені 1948 ён выправіўся ў Вялікабрытанію, дзе працаваў на шахтах цэнтральнай Англіі. Неўзабаве Янка Запруднік атрымаў стыпендыю з Ватыкана, дзякуючы гэтаму, у 1950-54 набываў вышэйшую адукацыю на гістарычным факультэце Лювенскага ўніверсітэта (Бельгія). Пасля заканчэння ўніверсітэта з адзнакай Янка Запруднік з верасня 1954г. пачаў працаваць журналістам беларускай секцыі радыёстанцыі "Вызваленне" ў Мюнхене. У 1969 г. у Нью-Ёркскім універсітэце абараніў дысертацыю і атрымаў ступень доктара гістарычных навук. Выкладаў гісторыю Расіі і СССР у Квінскім каледжы Нью-Ёркскага гарадскога ўніверсітэта (1970-1975), гісторыю і сучасную палітыку Беларусі ў Калумбійскім універсітэце (1994).

Навуковая дзейнасць і публіцыстыка Янкі Запрудніка прысвечана гісторыі Беларусі, жыццю беларускага народа. Яго высновы адрозніваліся ад канцэпцыі гісторыі беларускай дзяржаўнасці, якая існавала ў БССР. У працах "Савецкія канцэпцыі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага" ("Запісы", 1974, кн. 12) і "Дзяржаўнасць Беларусі ў дасавецкую пару" ("Запісы", 1977, кн. 15) аспрэчваецца сцвярджэнне савецкіх гісторыкаў аб тым, што беларускі народ упершыню прыступіў да стварэння сваёй дзяржавы толькі пры савецкай уладзе. Янка Запруднік падкрэсліваў, што Першы Усебеларускі з'езд - важная веха дзяржаўнага будаўніцтва, разглядаў абвяшчэнне БНР як акт аднаўлення беларускай дзяржаўнасці. Крытыкаваў нацыянальную палітыка КПСС і КПБ, ігнараванне нацыянальных беларускіх інтарэсаў, фармальнасць суверэнітэту БССР.

***Вікіпедыя.***

## Юбілей у Ніны Канунннікавай



**Ніна Паўлаўна КАНУННІКАВА,** прафесар кафедры тэхналогіі, фізіялогіі і гігіены харчавання, доктар біялагічных навук, дацэнт Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

Нарадзілася 06.08.1946 г. у г. Рэчыца Гомельскай вобласці. У 1970 г. скончыла лячэбны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута. У 1975 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму "Абмен ГАМК у мозгу пры дзеянні некаторых нейратропных сродкаў" у спецыялізаваным савеце пры Інстытуце фізіялогіі АН БССР. У 2000 г. абараніла доктарскую дысертацыю на тэму "Роль ГАМК у механізмах дзеяння этанолу ў мозгу" ў спецыялізаваным савеце пры Інстытуце радыёбіялогіі НАН Беларусі. Вучонае званне старшага навуковага супрацоўніка прысвоена ў 1987 г., вучонае званне дацэнта - у 2008 г.

У Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы працуе з 2002 года. Асноўны кірунак навуковых даследаванняў - нейрахімія, нейрафізіялогія, вывучэнне метабалічных парушэнняў у тканцы мозгу ў працэсах нейрадэгенерацыі і карэкцыя гэтых парушэнняў з дапамогай сродкаў метабалічнай тэрапіі. З'яўляецца аўтарам больш за 250 навуковых прац, 1 навучальнага дапаможніка з грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Чытае курсы і спецкурсы:

- Фізіялогія чалавека і жывёл;
- Нейрафізіялогія;
- Узроставая анатомія і школьная гігіена;
- Анатомія, фізіялогія і паталогія органаў слыху і мовы;
- Біяактыўныя рэчывы;
- Біясенсорные сістэмы;
- Біяэнэргетычныя рэсурсы.

Ніна Паўлаўна актыўны сябар Гарадзенскай арганізацыі ТБМ.

***Вікіпедыя.***

# З інтэрвію старшыні ТБМ Алега Трусава "Еўрарадыё"

27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб суверэнітэце. Расказаць, як гэта адбывалася 26 гадоў таму і навошта тую Дэкларацыю прымалі, ці усім незалежнасць Беларусі была даспадобы і што ёй пагражае, у студыю Еўрарадыё прыйшоў дэпутат Вярхоўнага Савета XII склікання, Старшыня Таварыства беларускай мовы **Алег Трусаў**.

**10 лепшых цытат з размовы:**

- Значная частка дэпутатаў ніякай Дэкларацыі прымаць не хацела, але калі 10 з 15 саюзных рэспублік такія Дэкларацыі прынялі, то мусілі нешта прымаць. Спрачаліся за кожную кропку і коску. Але ніхто з камуністаў ў парламенце не верыў, што гэта калі-небудзь будзе рэалізавана.

- Я за Дэкларацыю не галасаваў: мы (дэпутаты ад БНФ) залу пакінулі - з-за нязгоды, што ў дакумент уключылі пункт абавязкова падпісаць новую саюзную дамову з Расіяй. І тады назло нам камуністы гэтую Дэкларацыю прынялі. І вельмі радаваліся.

- Прыняцце Дэкларацыі аб суверэнітэце дало нам магчымасць праз год ператварыць яе з паперкі ў рэальны дакумент: 25 жніўня 1991 года ёй надалі вагу часовай Канстытуцыі.

- Будаваць незалежную краіну пачалі 25 жніўня 1991 года. Потым у верасні быў прыняты новы герб, новы сцяг, новая назва і працэс пайшоў. А потым былі Віскулі.

- Інстытут прэзідэнцтва незалежнасць умацоўвае. Але пасля Украіны стала зразумела, што адзін чалавек - не герой і абараніць незалежнасць краіны не зможа, нават калі захоча. Абараніць незалежнасць можа толькі народ.

- Тое, што 27 ліпеня перастала лічыцца дзяржаўным святам, мяне не крыўдзіць. Бо я не лічу гэтую дату роўнай даце 25 сакавіка ці 25 жніўня. Гэта кропка адліку, і ў календары яна павінна быць пазначаная. Але рабіць з яе самае вялікае свята я не стаў бы.

- Пішу цяпер падручнік "Гісторыя Еўропы эпохі сярэднявечча з беларускага глядзішча" і магу вам дакладна сказаць, вытокі нашай незалежнасці і нашай нацыі - у XII стагоддзі.

- Улада баіцца выхадаў людзей на вуліцу пад любымі сцягамі. Пагляздзіце: мы афіцыйна святкуем 7 лістапада, але дэманстрацыі забароненыя. Бо калі людзей на вуліцы выйдзе шмат, уладзе канец.

- Не такі мы ўжо і сатэліт Расіі, як некаму падаецца. Мы, калі трэба, можам зубы паказаць. Ніхто так не абводзіў Расію вакол пальца, як наша кіраўніцтва. Як гісторык, я ў захапленні ад нашага кіраўніцтва.

- Для мяне лепш Лукашэнка, чым Кебіч. Калі б выбралі Кебіча, то ён здаў бы нас у Расію разам са сцягам, гербам і мовай. А Лукашэнка не здаў, бо для яго незалежнасць - гэта ён сам.

# Памёр Іван Пташнікаў



28 ліпеня, пасля цяжкай хваробы, у сваёй менскай кватэры адышоў у лепшы свет выдатны беларускі празаік Іван Мікалаевіч Пташнікаў. Яму было 83 гады.

Іван Пташнікаў - прадстаўнік пасляваеннага "філалагічнага" пакалення беларускіх пісьменнікаў - нарадзіўся 7 кастрычніка 1932 года ў вёсцы Задроздзе на Лагойшчыне, дзіцём перажыў тры гады нямецкай акупацыі. Пасля вайны скончыў школу, а ў 1957 годзе журналісцкае аддзяленне філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля атрымання вышэйшай адукацыі адзін год працаваў рэдактарам мастацкай літаратуры ў Дзяржаўным выдавецтве БССР, а пазней у рэдакцыях літаратурных часопісаў: рэдактар аддзела прозы часопіса "Маладосць" (1958-1962), з 1962 г. і да выхаду на пенсію - рэдактар аддзела прозы часопіса "Полымя". Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1959 г.

Іван Мікалаевіч - аўтар зборнікаў аповесцей і апавяданняў "Зерне падае не на камень" (1959) і "Сцяпан Жыхар са Сцешыц" (1966), аповесцей "Лонва" (1965, 1982), "Тартак" (1968, паводле сцэнарыя аўтара пастаўлены ў 1973 г. аднайменны тэлефільм), "Найдорф" (1976), раманаў "Чакай у далёкіх Грынях" (1962), "Мсціжы" (1972), "Алімпіяда" (1985, пастаўлены аднайменны тэлеспектакль, 1989). У 1980 выйшлі Выбраныя творы ў 2 тамах, у 1990-1992 - Збор твораў у 4 тамах.

Творчая прыхільнасць Івана Пташнікава-празаіка - вясковая тэматыка. Таксама значнае месца ў творчасці займала тэма вайны.

Многія з ягоных твораў дзясяткі гадоў вывучаюцца школьнікамі на ўроках беларускай літаратуры.

Пахаваны Іван Пташнікаў 30 ліпеня на Паўночных могілках.

ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" глыбока смуткуе з прычыны смерці Івана Мікалаевіча і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім пісьменніка.

# Чарговыя пікеты па зборы подпісаў за Алега Трусава





У Менску прайшла апошняя серыя пікетаў па зборы подпісаў за вылучэнне старшыні ТБМ Алега Трусава кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Алег Трусаў падаў усе неабходныя дакументы ў акруговую выбарчую камісію.

***Наш кар.***

# Паўнавартасны музей вайсковай гісторыі можа быць

МІНІСТЭРСТВА АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

вул. Камуністычная, 1, 220034, Ф-2, г. Мінск
тэл. (017) 297 19 33, факс (017) 297 15 55
Р/р 3604901501003 у Спецыялізаваным упраўленні Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь
МФА 153006024, вул. Калiноўскага, 72а, 220114, г. Мінск
УНП 100864035, АКПА 00036759

МИНИСТЕРСТВО ОБОРОНЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

ул. Коммунистическая, 1, 220034, Ф-2, г. Минск
тел. (017) 297 19 33, факс (017) 297 15 55
Р/с 3604901501003 в Специализированном управлении Национального банка Республики Беларусь
МФО 153006024, ул. Калиновского, 72а, 220114, г. Минск
УНП 100864035, ОКПО 00036759

20.07.2016 № 1/1409
На № 59 ад 21.06.2016

Старшыні грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусаву А.А.

Аб рэфармаванні музея ваеннай гісторыі Рэспублікі Беларусь

Паважаны Алег Анатольевіч!

У адпаведнасці з даручэннем з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у Міністэрстве абароны, сумесна з зацікаўленымі, Ваш зварот аб рэфармаванні Дзяржаўнага музея ваеннай гісторыі Рэспублікі Беларусь (далей - Музей) разгледжаны.

Дзяржаўны музей ваеннай гісторыі Рэспублікі Беларусь створаны на базе музея гісторыі Беларускай ваеннай акругі. Гэта дазволіла захаваць існуючыя экспанаты, многія з якіх з'яўляюцца ўнікальнымі.

Міністэрства абароны забяспечыла ўтрыманне Музея ў добрым стане. Штогод яго наведваюць дзесяткі тысяч грамадзян нашай краіны.

У Музеі пастаянна праводзяцца: экскурсіі, лекцыі, гутаркі, ваенна-патрыятычныя ўрокі, сустрэчы з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны і Узброеных Сіл, семінары, канферэнцыі, урачыстыя прыёмы моладзі і школьнікаў у грамадскія аб'яднанні "БРСМ" і "БРПА".

Шырока разгорнута выставачная работа. У цяперашні час у Музеі рэалізуецца выставачны праект "Мы перамаглі", які складаецца з трох выстаў, якія адлюстроўваюць подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне 1941 - 1945 гадоў.

Таксама паведамляем Вам, што ў трэцім экспазіцыйным зале Музея размешчана экспазіцыя, якая асвятляе станаўленне і развіццё Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь і змяшчае экспанаты ўзбраення, абмундзіравання і рыштунку вайскоўцаў сучаснай беларускай арміі.

Ваеннае ведамства разглядае ваенную гісторыю Рэспублікі Беларусь як адзін з найважнейшых атрыбутаў суверэннай, незалежнай дзяржавы.

У сувязі з гэтым, далейшае развіццё Музея патрабуе сумесных намаганняў дзяржаўных органаў, у сферы кампетэнцыі якіх знаходзяцца магчымасці па прыняцці Музея ў камунальную ўласнасць, з мэтай пашырэння яго плошчаў для размяшчэння экспазіцый, развіцця навукова-экспазіцыйнай і культурна-адукацыйнай дзейнасці, а таксама папаўнення фондаў.

У мэтах выпрацоўкі агульных падыходаў па далейшаму развіццю Музея па ініцыятыве Міністэрства абароны, загадам Міністра культуры была створана рабочая група, у склад якой увайшлі прадстаўнікі Міністэрства абароны, Міністэрства культуры, Мінскага аблвыканкама, Мінскага гарвыканкама і Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Рабочай групай адзначана мэтазгоднасць функцыянавання Музея ў якасці аднаго з цэнтраў культурна-адукацыйнай дзейнасці і патрыятычнага выхавання грамадзян Рэспублікі Беларусь. Выпрацоўваецца адзінае разуменне канцэпцыі яго далейшага развіцця.

У адпаведнасці з артыкулам 20 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" Вы маеце права абскардзіць прынятае па Вашым звароце рашэнне ў судзе ў парадку, усталяваным у заканадаўстве.

З павагай
Міністр абароны Рэспублікі Беларусь
генерал-лейтэнант А.А. Раўкоў.

# Алена Анісім здала ў акруговую выбарчую камісію 1200 подпісаў

Ініцыятыўная група першага намесніка старшыні ТБМ Алены Анісім сабрала 1200 подпісаў за вылучэнне сп. А. Анісім кандыдадам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Подпісы і іншыя дакументы здадзены ў акруговую выбарчую камісію.

***Наш кар.***

## АБ'ЯВА

**У жніўні (да 28 жніўня) сядзіба ТБМ і кніжная выстава працуе штоцацвер і штопятніцу з 17.00 да 19.30 гадзін.**

**З 29 па 31 жніўня кніжная выстава будзе працаваць з 15.00 да 19.00.**





# У памяць паўстанцаў 1863 года

У канцы ліпеня Лідчына ўшаноўвае памяць паўстанцаў 1863 года. Воляй гістарычных абставін гэтае ўшанаванне адбываецца ў дні, блізкія да 27 ліпеня - дня прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі ў 1990 годзе. Цяжка ўжо сказаць, чаму, але Лідчына з нашых чатырох дзён незалежнасці больш урачыста адзначае 25 сакавіка і 27 ліпеня. Сёлета грамадскасць Лідчыны святкавала ў 22-гі раз.



27 ліпеня сцяг паўстання быў адвезены да "Капліцы паўстанцаў" у былым засценку Станкевічы Лідскага раёна. Капліца была пабудавана ў пачатку 19-га стагоддзя, адрамантавана летась і стала 8-й мясцінай на Лідчыне, звязанай з паўстаннем. Тут маліліся паўстанцы 1863 года, магчыма, тыя самыя, што ляжаць паміж Мохавічамі і Малым Ольжавам, бо па сутнасці капліца стаіць на другім краі той самай колішняй Ольжаўскай пушчы.

## Фэст у Песках

31 ліпеня адбыўся патрыятычны фэст на аграсядзібе "Гасціна", што ў вёсцы Пескі, непадалёк ад Ліды. Гаспадар сядзібы, сябар Ёдкаўскай суполкі ТБМ Лідскай арганізацыі Віталь Карабач добра папрацаваў, каб прыдаць усёй мясціне яскравы нацыянальны выгляд. Яшчэ не ўсё закончана, але і тое, што зроблена, радуе.

Распачаў фэст старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны Станіслаў Суднік. Пасля кароткай прамовы ён прачытаў верш, напісаны ў 1998 годзе да 70-годдзя Алеся Белакоза. Здавалася б, пры чым тут Белакоз. Белакоз - сімвал таго, як змагаліся за беларускасць адзінкі: ён у Гудзевічах, Ларыса Геніюш - у Зэльве, некалькі чалавек у Гародні - Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Міхась Ткачоў, Аляксей Пяткевіч... А сёння нас дзясяткі па вёсках, сотні і тысячы па гарадах, сотні тысяч у Менску, а будуць мільёны і будуць хутка.

Наступным на сцэну выйшаў намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ бард Сяржук Чарняк. Ён выканаў патрыятычныя песні на словы Рыгора Барадуліна, Станіслава Судніка, Францішка Багушэвіча, Наталлі Арсенневай і інш.

Слынны менскі бард Зміцер Захарэвіч выканаў шэраг гістарычна-ваярскіх песень. Вельмі цікава было пачуць у песнях словы з вайсковай беларускай тэрміналогіі, такія як "вырва", "звязовы". Некаторыя з іх Зміцер тлумачыў, і па сутнасці адбываўся ўрок беларускай мовы. Людзі слухалі мову і дзівіліся яе багаццю, бо ў Песках бывалі польскія, нямецкія, савецкія жаўнеры, а вось беларускіх не было ніколі, прынамсі, тых, якія па-беларуску могуць тры словы звязаць.

Акцёр Лідскага народнага тэатра, сябар ТБМ Алег Лазоўскі чытаў "Баладу пра беларускую школу" Станіслава Судніка і ўласныя пераклады з Жака Прэвера і Уладзіміра Маякоўскага. А то: "Русафобы, русафобы". Дзе тыя русафобы, калі на беларускім патрыятычным фэсце гучаць вершы расейскага, савецкага паэта? Хай сабе і па-беларуску.

Трэці бард, які прыняў удзел у фэсце, малады лідскі хлопец Алесь Мацкевіч, які выконваў уласныя песні, менш сацыяльныя, але не менш якасныя.

Фэст у Песках праводзіўся ўпершыню і разглядаўся арганізатарамі як рэпетыцыя да вялікага фэсту патрыятычнай песні, што мае адбыцца 8-га верасня гэтага года. Лідзяне маюць поўнае права шырока святкаваць гэтую падзею, бо ў бітве пад Оршай паўтысячай камандаваў уладальнік Малога Мажэйкава князь Палубінскі, і ў той паўтысячы быў не адзін лідзянін. Дарэчы, князь Палубінскі застаўся ў гэтай бітве жывым.

Асаблівасцю фэсту было тое, што ён не насіў ніякага палітычнага ці партыйнага характару, характар быў выключна нацыянальна-патрыятычны.

Прысутнічала вялікая колькасць людзей ніколі і ніякім чынам не заангажаваных ні ў палітычнай, ні ў грамадскай дзейнасці, проста яны любяць Беларусь і хацелі пабыць сярод такіх жа звыклых беларусаў.

Але святы ефрасіннеўскі крыж і сцяг паўстання над сцэнай, словы "Незалежнасць", "Самастойнасць", "Свабода", "Воля" на банеры яднялі наш час з нашым гістарычным мінулым, ядналі сённяшніх простых людзей з вялікім праз усе часы беларускім народам, ядналі нашае Вялікае Княства з не менш Вялікай Беларуссю.

*Яраслаў Грынкевіч.*



*Сяржук Чарняк*



*Зміцер Захарэвіч*



*Алег Лазоўскі*



*Алесь Мацкевіч*



*У "глядзельнай зале" па ўсім панадворку вольная атмасфера*



*Сцэна ў аграсядзібе "Гасціна" ў Песках Лідскага раёна*





## Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў жніўні

Адамін Іван
Адамчык Валеры Зянонавіч
Азаранка Аляксандр Іванавіч
Акіменка Антаніна
Акрамава Іна
Акрушка Яўген Анатольевіч
Александровіч Ала Ібрагім.
Альхіменка Лідзія
Альховік Надзея Васільеўна
Аляксандровіч Валянціна
Анацка Алег
Андросенка Сяргей Андрэевіч
Андрэеў Ілля Аляксандравіч
Антановіч Кастусь Уладзімір.
Антанюк Раіса Рыгораўна
Анціпенка Алесь Ілліч
Арлоў Уладзімір Аляксеевіч
Арэшкава Марыя
Асаула Рыгор Міхайлавіч
Астапенка Анатоль Уладзімір.
Бакач Алесь Уладзіміравіч
Бандарчык Уладзімір Мікал.
Банцэвіч Ільля Сямёнавіч
Барадзіна Інга Мікалаеўна
Бардашэвіч Яна Валер'еўна
Бартноўская Яна Аляксандр.
Барысік Таццяна Іванаўна
Басанец Анастасія Ільінічна
Басін Якаў Зіноўевіч
Бахметава Святлана
Бацюкоў Аляксей Мікалаевіч
Белахвостава Людміла Ігараўна
Більскі Ілья Андрэевіч
Блоцкая Ірына Мікалаеўна
Бранішэўская Света
Бубешка Антаніна
Бука Алег Рывалдавіч
Бурко Іосіф Віктаравіч
Бут-Гусаім Святлана Феадос.
Вайноўскі Міхаіл
Валатоўскі Вячаслаў Валянцін.
Варапееў Уладзімір
Васіляўскайце Таццяна
Васько Яніна Мікалаеўна
Ваўранюк Ірына Ільінічна
Воўк Яўген
Вуек Ул. Ул.
Вырвіч Барыс Іванавіч
Вячорка Аляўціна Сямёнаўна
Габец Ягор Валер'евіч
Галавіна Клаўдзія Іванаўна
Галаўнёў Мікалай Іванавіч
Галоцік Ірына Пятроўна
Галубовіч Ксенія Леанідаўна
Гаплічнік Аксана Мікалаеўна
Гапоненка Алег Паўлавіч
Гаравая Ніна Віктараўна
Гарэлікаў Уладзімір Марат.
Глазырын Сяргей
Грудніцкая Тамара
Грыгенча Вераніка
Грынюк Вольга Віктараўна
Грышуніна Наталля
Гядрэвіч Валянціна
Губскі Уладзімір
Гудкова Вольга Уладзіміраўна
Гундар Марына Юр'еўна
Дабравольскі Андрусь
Дабрадзей Алеся Пятроўна
Дакурна Генрых Фабіянавіч
Дарафяюк Міхаіл
Дваранчук Юры Яўгенавіч
Дзергачова Любоў Рыгораўна
Дзешчыц Алена Аляксандр.
Дзьячкова Ларыса
Дзянісік Алена
Догелева Ала
Доўгі Уладзімір
Драздоў Юры
Другакоў Уладзімір Пятровіч
Дрыгайла Зміцер Ісаакавіч
Дычок Сяргей Уладзіміравіч
Ерашэня Раман Віктаравіч
Жаркоў Аляксандр Іванавіч
Жаўрыд Марына Аляксандр.
Жукоўская Алеся Іванаўна
Забенька Сяргей Аляксандр.
Зайка Аляксандр Фаміч
Запрудскі Сяргей Мікалаевіч
Зверава Тамара
Зуева Валянціна Дзмітрыеўна
Іваноў Мікалай Аляксеевіч
Іскарцкая Марына
Каваленка Анастасія Уладзім.
Кавалеўскі Яўген Міхайлавіч
Кавалец Аляксей Паўлавіч
Казак Алег
Камарова Алена Аляксандр.
Камароўскі Мікалай Міхайл.
Камароўскі Мікола Іванавіч
Камбалава Анжаліка Набіл.
Камянецкая Ірына
Кананенка Тамара Міхайлаўна
Канкаловіч Вера
Кануннікава Ніна Паўлаўна
Капціловіч Тамара
Карабельнікава Алена
Карніенка Мінай Лявонавіч
Кароль Алег
Карпекін Канстанцін Рыгор.
Карповіч Андрэй Уладзімір.
Касаты Людвіг Канстанцінавіч
Касьяненка Антон
Кірвель Юзаф Юзафавіч
Князева Часлава Вячаславаўна
Коваль Альвіна
Козіч Ганна Леанідаўна
Колесень Ірына
Копыл Ілля Піліпавіч
Корбут Аляксандр Іванавіч
Косінец Анатоль
Краснік Вольга
Краснова Наталля
Красюк Фёдар
Краўцоў Генадзь Сямёнавіч
Краўчанка Пётр Кузьміч
Крокас Ірына
Круглая Марына Віктараўна
Кручонак Ігар Мікалаевіч
Кузьміч Леанід Пятровіч
Кузьмянкоў Зміцер Уладзімір.
Куксар Наталля
Куль Дзмітры
Кунцэвіч Святлана Віктараўна
Купава Вітаўт Мікалаевіч
Куплевіч Віталь Эдуардавіч
Курловіч Аляксандр Адамавіч
Кушаль Глафіра Васільеўна
Леановіч Алена Георгіеўна
Лемеш Яўген Віхенцьевіч
Ляпяшко Аляксандр Віктар.
Лойка Тамара
Лук'янава Марыя Рыгораўна
Ляскоўскі Уладзіслаў Канстан.
Ляўкевіч Наталля Міхайлаўна
Ляшкевіч Таццяна
Маёрава Вольга Уладзімір.
Макарэвіч Віталь Сяргеевіч
Малашчанка Уладлена Алег.
Малей Кацярына
Маліноўскі Макар Яўгенавіч
Мальдзіс Адам Восіпавіч
Мандрык Наталля
Мандрыкін Раман Аляксанд.
Марцінкевіч Андрэй Андр.
Марцынкевіч Андрэй
Марчанка Дзяніс Васільевіч
Марчык Віктар
Машчэнская Алена
Мілевіч Ларыса Васільеўна
Мінчук Уладзімір
Міхайлоўская Анастасія Вяч.
Міхайлоўская Таццяна Васіл.
Міцкевіч Марыя Міхайлаўна
Мішкевіч Аліна Міхайлаўна
Мудроў Алег Л.
Муха Анатоль Міхайлавіч
Муха Барыс Ібрагімавіч
Мыслівец Андрэй Аляксанд.
Мялешка Аляксей Аляксеевіч
Мясніковіч Юры
Навумец Яўген Часлававіч
Наліўка Лідзія Вячаславаўна
Неткачава Валянціна Алякс.
Нікіценка Мікалай
Оліна Эла Ігараўна
Пабірушка Надзея
Палівода Святаслаў Мікітавіч
Панамарова Жанна Сцяпан.
Папова Варвара Сяргееўна
Пархімчык Святлана Мікал.
Патапчук Леанід
Паўловіч Іван Іванавіч
Пацёмкін Уладзімір Леанідавіч
Петухоў Алесь
Піваварчык Сяргей Аркадз.
Плевака Валеры Сцяпанавіч
Плотнікаў Уладзімір
Правалінскі Віталь
Пухоўская Юлія Аляксандр.
Пучынскі Уладзімір Станіслав.
Пушкін Аляксандр Мікал.
Пшэннік Тамара Францаўна
Пятровіч Ева Іванаўна
Рагачэўская Валянціна Пятр.
Раманава Юльяна Ігараўна
Раманчык Надзея Дзмітрыеўна
Рамук Андрэй
Раткевіч Лілея
Рачко Віктар
Русакевіч Юры Яўгенавіч
Руснак Ганна Віталеўна
Рынкевіч В. У.
Рысевец Уладзімір Аляксанд.
Рэйда Святлана Юр'еўна
Сабаленка Аляксандр Міхайл.
Сабінін Сяргей Юр'евіч
Савіцкая Ірына Канстанцінаўна
Савосценка Ігар
Садаўнічы Дзмітры В.
Садоўская Анастасія Раман.
Сак Міхал Міхалавіч
Салодкіна Святлана
Самайлюк Тамара Андрэеўна
Санько Валеры Аляксеевіч
Сармант Сяргей Аляксандр.
Саўко Марыя
Сафонава Вольга Віктараўна
Сека Васіль
Сенькавец Ганна
Сідарэвіч Наталля
Скрыган Ігар Генадзевіч
Скрыпаль Аляксей Сяргеевіч
Смаленкін Іван Анатольевіч
Сом Алена Уладзіміраўна
Стамінок Наталля
Стаціўка Алесь Канстанцінавіч
Сташкевіч Яна Ігараўна
Стукала Алена
Субоцін Аляксандр Аляксан.
Супрановіч Віталь Канстанц.
Сушчэўскі Алесь Аляксандр.
Сцефановіч Здзіслаў Уладзісл.
Сцяцэнка Наталля Валер'еўна
Сырапеня Пётр Андрэевіч
Сямашка Я. І.
Торап Аляксандр Валер'евіч
Тоўсцік Святлана Сяргееўна
Трафімчык Дамініка Сярг.
Трубач Таццяна Георгіеўна
Трусаў Алег Анатольевіч
Труханові Ларыса
Трухановіч Леанід Мікалаевіч
Тупянец Дзмітры Валянцін.
Туронак Людміла Данатаўна
Тэжык Ірына
Утачкіна Людміла
Фёдарава Таццяна Дзмітр.
Федуковіч Васіль
Філімонава Іна Уладзіміраўна
Філіпчык Васіль Іванавіч
Форнэль Кастусь Іванавіч
Халіпскі Рыгор Веніямінавіч
Хітрун Алесь Часлававіч
Царук Вольга Іванаўна
Цвірка Іван Яўгеньевіч
Цімашэвіч Уладзімір Максім.
Цыганкова Анастасія Дзмітр.
Чабанава Таццяна Аляксандр.
Чарнякоўскі Віталь Радзівон.
Чэчат Алесь Віктаравіч
Шаўчук Ігар Іванавіч
Шумскі Андрэй Мікалаевіч
Шчэрбіч Мікола Аляксандр.
Шыла Святлана Іванаўна
Шымко Лілея Канстанцінаўна
Юч Галіна
Ярмоленка Тамара Іосіфаўна
Ясюк Іван Віталеевіч
Яцкоўская Святлана Анатол.

## Нашыя сцягі, наша музыка ў наш Дзень Незалежнасці





У рамках агульнанацыянальнай выбарчай кампаніі ў мінулую сераду 27 ліпеня ў сталічным мікраёне Сухарава адбыўся збор подпісаў за кандыдата па Сухараўскай выбарчай акрузе, намесніка старшыні Руху "За Свабоду" Алеся Лагвінца і канцэрт Лявона Вольскага ў яго падтрымку. Трэба адзначыць, што дата выбарчага пікета і канцэрту таксама мае сімвалічнае значэнне - 27 ліпеня Вярхоўным Саветам была прынята гістарычная Дэкларацыя пра дзяржаўны суверэнітэт Беларусі, згодна з якой наша краіна абвяшчалася незалежнай, суверэннай і дэмакратычнай.



Пра гэта казалі тыя, хто выйшаў на сцэну і прамаўляў у падтрымку кандыдата і віншаваў са святам Незалежнасці жыхароў раёна і ўсёй Беларусі. А на пікет у гэты дзень прыйшлі не менш дзвюх тысяч мінчукоў і не толькі. Бо высветлілася, што многія беларусы прыехалі з іншых гарадоў і мястэчкаў краіны, прынамсі, Бярэсця. Да іх са словамі вітання звярталіся аўтар тэлеперадачы "Падарожжы дылетанта" і вядоўцы канцэрта-пікета Юры Жыгамонт, паэтка Валерына Кустава, мастак Алесь Пушкін, які падрыхтаваў да гэтага святочнага дня дзве новыя алейныя работы. На пікеце прысутнічаў і адказваў на пытанні выбарцаў і сам Алесь Лагвінец.

З асаблівым энтузіязмам слухачамі быў сустрэты легендарны беларускі рок-музыкант Лявон Вольскі. Сваю праграму для выбарцаў Лявон распачаў песняй-заклікам "Зямля", якая, як адзначыў аўтар, застаецца актуальнай і па сённяшні дзень. Наступныя творы, якія выканаў Лявон, нагадалі слухачам старонкі "Народнага альбома", творчасць геніяльнага Анатоля Сыса. Потым былі агульныя спевы і ў слухачоў з'явілася жаданне падпяваць любімым мелодыям - "Тры чарапахі", "Простыя словы", "Абсэнт", "Госці", "Полька", у час якой многія з прысутных ўжо танчылі, а потым пусціліся ў скокі!

Цікава было бачыць, што многіх жыхары Сухавара сачылі за канцэртам Лявона са сваіх балконаў. Напэўна таму, што ім пакуль не хапіла смеласці стаць пад бел-чырвона-белыя сцягі, якімі была ўпрыгожана сцэна, а многія са слухачоў трымалі сцягі ў руках. Але гэтым людзям было цікава і, упэўнены, пазнавальна: аказваецца ёсць беларуская альтэрнатыва таму, што ім ўбівае ў галаву расейскае тэлебачанне. Прыдзе час і яны зразумеюць, што жыве і набірае моц іншы Менск - малады, сучасны, якому жыць у незалежнай і дэмакратычнай краіне. Як пра гэта спяваў у кранальнай баладзе "Менск-Мінск" Лявон Вольскі.

*Анатоль Мяльгуй.*





## Інтэлігенцыя просіць надаць менскаму аэрапорту імя Скарыны і абвясціць 6 жніўня Днём беларускага друку

Прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі звярнуліся да прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова, у Менгарвыканкам, і ў Менгарсавет, і да Аляксандра Лукашэнкі з просьбай належным чынам ушанаваць 500-годдзе беларускага кнігадруку. У тым ліку, яны просяць надаць Нацыянальнаму аэрапорту імя Францішка Скарыны, перадае "Наша Ніва".

*"У 2017-м годзе Беларусь будзе адзначаць адну з найважнейшых датаў сваёй гісторыі і культуры - 500-годдзе беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання і беларускай Біблії"*, - адзначаецца ў звароце.

Сярод іншых просьбаў - ініцыяваць перад урадам Літоўскай Рэспублікі ўсталяванне помніка Францішку Скарыну ў цэнтры Вільні. А таксама ініцыяваць усталяванне помніка беларускаму першадрукару ў Кракаве, Кіеве і Маскве.

У звароце ў Менскі гарадскі Савет дэпутатаў і Менскі гарадскі выканаўчы камітэт прапанавалі надаць імя Францішка Скарыны адной з цэнтральных магістраляў Менска.

У звароце да Аляксандра Лукашэнкі - прапанова абвясціць Беларускім Днём Друку 6 жніўня. Менавіта ў гэты дзень была надрукаваная першая кніга, у якой ужывалася старабеларуская мова.

Зварот падпісалі **Адам Мальдзіс, Алег Трусаў, Станіслаў Шушкевіч, Мечыслаў Грыб, Валянцін Голубеў** і іншыя.

***КМ.***



***Навіны Германіі***

# У Менску прайшла сустрэча па наладжванні беларуска-нямецкіх партнёрстваў у сферы ўстойлівага развіцця

26 ліпеня ў Менску прайшла сустрэча па наладжванні беларуска-нямецкіх партнёрстваў у сферы ўстойлівага развіцця. Мерапрыемства арганізавана АДБ "Брусель" у рамках праграмы "Дом уземаразумення" ў партнёрстве з Праграмай падтрымкі Беларусі Федэральнага ўрада Нямеччыны ў Менскім міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ё. Раў. Удзельнікі сустрэчы - прадстаўнікі некамерцыйных арганізацый з Беларусі і Германіі - абмеркавалі кірункі развіцця супрацоўніцтва і пытанні рэалізацыі патэнцыйных сумесных праектаў у сацыяльнай сферы і ў вобласці ўстойлівага развіцця ў нашай краіне.

Як адзначыла старшы праграмны менеджар АДБ "Брусель" Алёна Ліс, адным з аспектаў праграмы "Дом узаемаразумення" з'яўляецца наладжванне больш цесных сувязяў паміж беларускімі арганізацыямі і іх калегамі з краін Еўрасаюза для абмену досведам і трансферу інавацый падчас рэалізацыі сумесных праектаў, у той час як прывязка такіх сустрэч да пэўных міжнародных конкурсаў дае больш шанцаў атрымаць адчувальныя вынікі ў найбліжэйшай перспектыве.



*Сяргей Лабада, каардынатар кірунку "Арганізацыйнае развіццё" Менскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханеса Раў*



*Віктар Балакіраў, старшыня дырэкцыі Менскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханеса Раў*



*Алёна Ліс, старшы праграмны менеджар АДБ "Брусель"*

Сустрэча ў Менску прымеркавана да старту 8-га этапу Праграмы падтрымкі Беларусі Федэральнага ўрада Германіі, у рамках якой толькі з 2002-га года было рэалізавана 230 сумесных праектаў. Галоўная мэта гэтай праграмы - узмацненне партнёрства беларускіх і нямецкіх арганізацый у сферы грамадзянскай супольнасці, паляпшэнне супрацоўніцтва паміж НДА і дзяржаўнымі структурамі, а таксама падтрымка інавацыйных праектаў.

Сёння ў рамках Праграмы падтрымкі Беларусі Федэральнага ўрада Германіі фінансуюца праекты ў сферы сацыяльнага абслугоўвання, інавацый у ахове здароўя, рэсурсазберажэнні і развіцці сельскіх тэрыторый. Пры гэтым падтрымка аказваецца як на мясцовым, так і на рэгіянальным ды нацыянальным узроўнях. Аб'ём фінансавання, у залежнасці ад маштабу праекту, складае ад 15 да 75 тысяч еўра.

Як адзначыў каардынатар кірунку "Арганізацыйнае развіццё" Менскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханеса Раў Сяргей Лабада, падобныя сустрэчы дапамагаюць беларускім арганізацыям, якія працуюць у сацыяльнай сферы і ў вобласці ўстойлівага развіцця, знаходзіць замежных партнёраў, каб рэалізаваць свае ідэі і ўжыць інавацыі:

- Вельмі часта беларускія арганізацыі па шматлікіх прычынах не заўсёды маюць магчымасць усталявання прамых кантактаў з профільнымі арганізацыямі ў Германіі, таму такога роду "contact making" семінары, сустрэчы дазваляюць ім пазнаёміцца. Вядома, тут многае залежыць ад актыўнасці саміх арганізацый, наколькі іх профіль і цікавасць адзін да аднага супадзе.

Сярод нямецкіх удзельнікаў сустрэчы сёння прысутнічалі некамерцыйныя арганізацыі, якія працуюць у сферы экалогіі, нефармальнай адукацыі, барацьбы з алкагольнай і наркатычнай залежнасцю сярод моладзі і інш.

Так, на сустрэчы беларускія арганізацыі пазнаёміліся з досведам працы Фонду Міхаэля Зукова ў вобласці захавання і кансервацыі водна-балотных угоддзяў і аднаўленні тарфянішчаў. Дадзеная арганізацыя ўжо рэалізоўвала экалагічныя праекты ў Беларусі, у тым ліку ў Рэспубліканскім біялагічным заказніку "Спораўскі", а таксама развівае кансервацыю і аднаўленне балотных тэрыторый у Белавежскай пушчы.

Таксама ўдзельнікі сустрэчы вывучылі досвед працы нямецкай арганізацыі CRISP (Crisis Simulation for Peace), якая развівае кірунак "гульняў-сімуляцый", ці гульнявога мадэлявання, у сферы нефармальнай адукацыі моладзі - для навучання менеджменту канфліктаў і іх негвалтоўнаму ўрэгуляванню, навыкам перамоў і пошуку рашэнняў праблемных сітуацый. Дадзеная нямецкая арганізацыя працуе ў рамках Еўрапейскай добраахвотніцкай службы і зацікаўлена ў супрацоўніцтве з беларускімі моладзевымі арганізацыямі - для міжкультурнага абмену і развіцця міжнароднай нефармальнай адукацыі.

На сустрэчы ў Менску беларускія і нямецкія арганізацыі абмеркавалі патэнцыйныя кірункі супрацоўніцтва і ідэі сумесных праектаў.

У жніўні беларускія і нямецкія партнёры маюць магчымасць прыняць удзел у конкурсе праектаў, які плануе правесці Праграма падтрымкі Беларусі Федэральнага ўрада Германіі. Па словах арганізатараў сустрэчы, прапановы новых сумесных праектаў арганізацыі павінны прадставіць да канца кастрычніка.

***Наш кар.***





# Уладзімір Караткевіч і Магілёўшчына

25 ліпеня 1984 года не стала выбітнага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. Шматлікімі повязямі жыццё Караткевіча звязанае і з нашай Магілёўшчынай.

Караткевіч нарадзіўся ў горадзе Оршы ў 1930 годзе. Ён за сваё жыццё пабываў ва ўсіх кутках нашай Радзімы. Бываў і ў іншых краінах, дзе заўсёды шукаў сваю Беларусь. І апошнія дні свайго жыцця таксама правёў у вандроўцы па Палессі, калі з сябрамі на плытах вандраваў па Прыпяці. Караткевіч часта падкрэсліваў, што яго бацька, Сямён Цімафеевіч, паходзіў са старадаўняга, але збяднелага шляхецкага роду, якому належаў засценак Караткевічы: *"Род падстарасты Бабруйскага і Пінскага, захудалы да ўсёру."*

Прадзед пісьменніка па матчынай лініі служыў святаром у Краснаполлі, Чачэрску. Адзін са сваякоў Караткевіча - Тамаш Грыневіч ("сваяк з боку маці") - у паўстанні 1863 года камандаваў атрадам і быў растраляны па загаду Мураўёва. Адам Мальдзіс знайшоў у Варшаве рукапісныя "Нататкі паўстанца 1863 года ў Магілёўскай турме", дзе сярод іншых імёнаў упамінаўся і Грыневіч. Больш таго, прыводзіўся напісаны ім верш "Песня прыгаворанага да смерці".

Дзед, Васіль Юльянавіч Грынкевіч, нарадзіўся ў 1861 годзе ў Краснаполлі, навучаўся ў Гомелі, а затым уладкаваўся ў Чачэрску лясным аб'езчыкам. Неўзабаве пераехаў ў Мсціслаў, дзе працаваў пісарам у казначэйстве. Пазней, у пачатку 20 стагодзя, Грынкевічы жылі таксама і ў Магілёве. Васіль Юльянавіч ведаў вельмі шмат казак, баек і легенд. Адна з легендаў - пра вялікую змяю "Дзебраў", пра ўрочышча ў Магілёве. Маці Уладзіміра Караткевіча нарадзілася ў Мсціславе і ў 1911 годзе скончыла жаночую Марыінскую гімназію ў Магілёве (зараз гэта сярэдняя школа № 1).

Уладзімір Караткевіч скончыў Кіеўскі ўніверсітэт і некалькі год працаваў настаўнікам ва Украіне. Зусім не думаў свой лёс звязаць з паэзіяй, але даслаў свайму сябру ў Менск свой верш "Машэка". А той аднёс яго ў выдавецтва, і ў 1955 годзе ў часопісе "Полымя " выйшаў першы надрукаваны верш Караткевіча, які прысвечаны легендарнай гісторыі Магілёва:

*Лісце апалае засыпае роў,*
*Пушчу чорную апавіў туман,*
*Атачон з усіх чатырох бакоў*
*Золкай восенню мой лясны будан.*
*Стогнуць пад дажджом старчакі альхі,*
*І ў будан з дрыгвы плыве золь-зіма, -*
*У ім карэнні - столь, ложак - ліст сухі,*
*Ні агню няма, ні святла няма.*
*Ад усіх я ўцёк, ад усіх я збег,*
*Буйным воласам да калень зарос.*
*Годы стаялі, быццам белы снег.*
*Горы панскіх цел мой Дняпро панёс…*

Існуе яшчэ адзін малавядомы верш, які тычыцца нашага горада. Верш называецца так: "Скарга магілёўскага вар'ята на некаторых беларускіх музыказнаўцаў".



*Жаночая гімназія ў г. Магілёве, якую скончыла маці Уладзіміра Караткевіча. Зараз СШ № 1*

У шасцідзесятыя гады з-пад пяра аўтара выйшаў сцэнар фільма, заснаваны на магілёўскіх анекдотах. Але фільм не быў зняты, бо быў адхілены сталічным чынавенствам.

Па некаторых гістарычны творах Уладзіміра Караткевіча можна вывучаць старажытную гісторыю Магілёва. Асабліва дакладна апісваецца наша мінуўшчына перыяду Вялікага Княства Літоўскага, а менавіта XVII стагоддзя, у "Сівой легендзе":

*"Пані яшчэ мацней загадала гнаць коней. І мы прыскакалі ў горад і спыніліся на Лупалаўскім прадмесці, у парафіі Святой Тройцы… Здзівіла нас мноства п'яных у прадмесці, а потым і ў самім горадзе. Выявілася, што пакуль звестка пра злоў яшчэ не прыйшла - з ганцом прыбыло дазваленне лішнія дні чатыры супраць Магдэбургскага права, і не ў тэрмін, варыць піва, і гарэлку, і мёд. Горад увесь праваслаўны, багаты і ганарлівы, муры каменныя, купалы залатыя, валы, равы, вежы. А людзі - хоць у сані запрагай, такія біцюгі. І ўсе п'яныя. Пачалі шукаць спосабу, як трапіць у горад. Праехалі праз каменную Быхаўскую браму ў вале, а потым памучыліся. Торкнуліся да Каралеўскай брамы - нельга, паехалі да другой - нельга. Праз Малую Пешаходную, да ракі Дубровенкі - нельга. Баяліся, што ўварвецца мужычно ў горад і будзе разня і смута. Нарэшце трапілі праз Алейную, ля якой яўрэйская школа. Пад брамаю параховыя склады, а на браме ікона Божай Маці. Няправільна магілёўцаў дражняць, што яны яе прадалі, а грошы прапілі разам з войтам. Непарушна сцеражэцца ікона!"*

Наступны ўрывак таксама красамоўна сведчыць пра сярэднявечны Магілёў:

*"А спрэчкі ў ратушы ўсё цягнуліся. Сапега з Друцкім былі за смерць. Але магістрат быў супраць… Крычалі да хрыпаты, лаялі адзін аднаго псамі і па-іншаму. І, можа, нічога б не вырашылі, каб не прыйшлі людзі з Лупалава і Падуспення. У натоўпе адразу засмярдзела скурамі і рогам, і крычаць пачаў натоўп зусім іначай:*

*- Заб'яце яго - смута будзе! Забылі , як пры магілёўскім бунце ў порткі клалі, будзеце і цяпер. Стаха Мітковіча ды Гаўрылкі Іванова на вас няма. Памяць каціная! Забылі, як дзверы судовай залы адбілі? Набату даўно не чулі? Будзе і вам тое ж!..*

*І давялося Раману праехаць увесь шлях. Правезлі яго ад вязніцы да замка, да насыпной гары, міма храма Сарака Пакутнікаў да Спаскай царквы. Па ўсім горадзе, дабы бачылі, як караецца ліхадзейства…*

*За гарэлку Бога прадалі! Возьмуць вас за гэта чорт Савул і чорт Калдун! Брамы вашы паваляцца, магілы мышакоўскія ўвесь Мікалаеўскі спуск зоймуць…"*

У адным з самых ранніх сваіх твораў, які, дарэчы спачатку выйшаў на ўкраінскай мове, бо распавядаў украінскім школьнікам пра Беларусь, "Зямля пад белымі крыламі", Караткевіч шмат увагі надаў шэдэўру айчыннай архітэктуры - Свята-Мікольскай царкве XVII стагоддзя: *"На Магілёўскім падоле стаіць Мікольская царква, бліскучы ўзор беларускага барока. З ёю звязаны яшчэ адзін эпізод гісторы. Пры ёй, у "Цярэшка, каторы проскуры заведал", жыў некаторы час у бязведамнасці сціплы школьны настаўнік Дзмітр Нагі. Тут зарадзілася яго "ідэя", тут ён пачаў яе выконваць і магчыма, атрымоўваць інструктаж ад пэўных колаў і грамадзіць паплечнікаў. Каб пасля ўзляцець на адну з вяршынь зямной магутнасці пад імем цара Дзімітрыя, а пасля бясслаўна ўпасці з яе Лжэдзмітрыем II".*

У гэтым жа творы Караткевіч падкрэслівае асаблівасці вопраткі на Магілёўшчыне: *"…Верхняя вопратка, як мужчынская , так і жаночая: кажухі і кажушкі (частка вышытыя), буркі, тоўстыя - у палец-паўтара - і доўгія паліто з капюшонам, для зімовай дарогі, світкі (другія назвы - "латуха", "сярмяга", "сукман", "жупан") рознага колеру, але, часцей за ўсё, белыя, часам расшытыя… сінім шнурком (Быхаўшчына), зялёным шнурком або чорны скурай (пад Клімавічамі)".*

Надае аўтар увагу і казацкім паўстанням на нашай зямлі: *"Атаман Мацюша Гультай напаў на Магілёў. Ягоны загон аброс сялянамі, як снежны камяк. Маёнткі і палацы былі выпалены. Атрад узяў Быхаў і выбіў там растаўшчыкоў, арандатараў і шляхту".*



*З Янкам Брылём, Рыгорам Барадуліным, ляснічым Аляксандрам Карпенкам і дырэктарам лясгаса Віталём Шаблоўскім у Чэрыкаўскім заказніку. 1965 год.*

Не прайшла незаўважанай для пісьменніка і адна з самых цікавых і драматычных падзей у гісторыі нашага горада - бунт супраць Іасафата Кунцэвіча ў 1618 годзе: *"Аршанцы не пусцілі яго, ледзь не ўтапілі ў Дняпры. Магілёў запёр брамы, выцягнуў на вал гарматы і сказаў, каб "душахват" каціўся адсюль, калі не хоча атрымаць пяціфунтовае ядро ніжэй спіны. Асаблівай патрэбы ў такім набытку біскуп, па ўсяму відаць, не адчуваў, бо змятаў вуды".*

Трагічная і загадкавая постаць з Магілёўшчыны Ігнат Грынявіцкі - таксама для Караткевіча цікавы гістарычны персанаж: *"І, урэшце, беларус Ігнат Грынявіцкі (паходжаннем з беларускай беднай шляхты, а ніякі не "польскі дваранін", як пра гэта часам пішуць) 1 сакавіка 1881 г. кінуў бомбу, якой забіў цара Аляксандра II і смяротна параніў сябе".* Акрамя таго, у сваім вершы "Смяротная страта" пісьменнік пасвойму спрабуе аднавіць апошнія хвіліны жыцця нарадавольца.

**"Ігнату Грынявіцкаму, які сваім выбухам адпомсціў Аляксандру II за 1863 год.**

*… З апошніх згасаючых сілаў*
*(Пытанні… Пытанні… Пытанні…)*
*Ён лепш успомніць пра тое,*
*За што ён ішоў на замах.*
*Успомніць Бабруйшчыну мілую,*
*Майскую стужку Бярозы,*
*Белыя світкі ў лугах…"*



*Сям'я Грынкевічаў: дзед Васіль Юльянавіч, прабабуля Ганна Мікалаеўна Юдзеніч (бабуліна маці), бабуля Ганна Францаўна, дзеці Надзея, Яўгенія, Сяргей. Магілёў 1902 г.*





У творы, прысвечаным падзеям 1863-64 гадоў "Нельга забыць", Караткевіч вуснамі аднаго з сваіх літаратурных герояў - Леановіча, распавядае пра гераічнае паўстанне 1661 года:

*"У цараванне, здаецца, цара-цяляці горад Магілёў аддаўся ва ўладу баганоснага маскоўскага воінства. Заўважце, сам. Ну, на знак удзячнасці жыхароў уганоры́лі трымаць гарнізон коштам самога ж вялікага града. І сталі тут нашы лабідуды думу думаці. "Гэта каб яшчэ батагамі, дык згода была б - усё жыццё з-пад батагоў не вылазім. А грошыкі - тут ужо не. Дудкі…"*

*- І вырашылі рэзаць кроўных братоў. Калі ваш продак сярод іх быў, дык я яму не пазайздрошчу. Таму што некалькі тысяч іх было, і ніхто не ўцёк… Пачалося з таго, што нехта са стральцоў на кірмашы пірог у бабы ўхапіў. І тут мой продак, як хрысціянін, не вытрымаў, выбег з ратушы з крыкам: "Пара!..".*

*- … Увесь Мікалаеўскі спуск касцямі закідалі - адсюль і пайшла новая назва: Касцярня… Колькі стральцоў па іх пагаласілі. Колькі дзеці! Нічога не зробіш, любоў да брата… А з-за чаго? З-за пірага ўсё, родненькі, з-за пірага…*

*- … З пірага і дваранства наша пачалося. Кароль польскі - бац, прывілей: даць Леановічам прыдомак "Пара", а як на іхняй мове гэта дрэнна гучыць, то перарабілі яго на "Пора".*

Асноўным мастацкім творам Уладзіміра Караткевіча з'яўляецца трылогія"Каласы пад сярпом тваім", прысвечаная паўстанню Кастуся Каліноўскага. Галоўныя падзеі рамана разгортваюцца на Магілёўшчыне. Вось адзін з фрагментаў, пад час выступу Алеся Загорскага ў дваранскай зборні: *"… Гэты не стаў бы і Мішку Мураўёву даваць спуску. А ўжо як перад ім на задніх лапках хадзілі маршалкі Крушэўскі ды Абданк у тыя страшныя леты. А пан Юры не даў крыўдзіць людзей. Тром губернатарам не даў. Сярожку Энгельгардту - не даў, Мікалашку Гамалею - не даў, Міколку Скалону - не даў. І чацвёртаму не дасць, бо, чутна, Скалон хутка загрыміць - паспеў-такі нашкодзіць за тры гады. І ходзіць пагалоска - будзе на ягоным месцы Аляксашка Беклемішаў, чалавек роду старога, але сварлівы і цяжкі".*

У Караткевіча быў яшчэ адзін малавядомы талент - ён умеў досыць добра маляваць: аўтапартрэты, малюнкі, шаржы. Як трапна заўважыў Рыгор Барадулін: *"А мастак Караткевіч мог бы, відаць, спаборнічаць з пісьменнікам Караткевічам".* І адзін з самых цікавых і смешных яго малюнкаў прысвечаны Магілёву. Гэта - "Магіла льва", але не Машэкі асілка вырва, а… Варта паглядзець сам малюнак.




***"А гэта магіла льва". Фрагмент аўташаржа і аўтапародыі. 1965 г.***

Адзін з першых на Беларусі Караткевіч уздымае праблему экалогіі і захавання роднай прыроды: нашых лясоў, палёў і рэк, якія знішчаліся меліярацыяй. Захавалася некалькі фотаздымкаў з яго наведвання з іншымі беларускімі пісьменнікамі Чэрыкаўскага заказніка ў 1965 годзе. І зразумела, Караткевіч - жартаўнік. Каму цікава адкуль узяўся верш "Заяц варыць піва", таму варта пазнаёміцца з яго маленькім апавяданнем "Дзяўчына з Быхава".

Гэта далёка не ўсё з тэмы "Караткевіч і Магілёўшчына". Зараз выходзіць поўны збор твораў пісьменніка ў 25 тамах, і нас чакае яшчэ шмат нечаканых адкрыццяў.

*Алег Дзьячкоў,*
*Магілёў.*

***Уладзімір Урбановіч***

# Народныя прыказкі і прымаўкі

## *Запісана ў вёсцы Пудзіна Дакудаўскай гміны Лідскага павета*

Абы - балота, то чэрці будуць.
Ад смерці ніхто ні выкупіцца, ні выкруціцца.
Адрэзанай лусты не прылепіш.
Бацька сахой так не дагодзіць дзеткам, як матка іголкай.
Бацькі падзяруць грудзіну дзецям носячы, а дзеці - ад бацькоў хаваючы.
Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца, а бедны зявае - дзе багаты дзявае?

Без Бога - ні да парога, а з Богам хоць - за мора.
Без гаспадара гумно плача, без гаспадыні - хата.
Без прыказкі і з лаўкі не валіцца.
Бог сірату любіць, але долі не дае.
Брахаў бы каток, ды язык караток.
Брат на брата, як кат на ката.

Хочаш, дачка, прадзі - хочаш гола хадзі.
Хваробу не трэба клікаць - сама прыдзе.

Ці аб пень савою, ці пнём па саве - саве ўсяроўна баліць.
Далікатнаму і ў небе раскашнейшае месца.
Да пары збан ваду носіць, як вуха ўрвецца, то збан паб'ецца.
Добрае далёка чуваць, а ліхое - яшчэ далей.
Добрых бацькоў - добрыя дзеці.
Добрыя жорны ўсё перамелюць.
Добры сабака лепшы за ліхога чалавека.
Дождж у пору - усяроўна як золата.
Дурню гаварю - дурань да гары.
Дурной галаве розуму і калом не ўб'ешь.
Дзіця і п'яны праўду скажа.
Дзіру дзірой не залатаеш.

Гаспадарка свет корміць.
Гора мучыць, гора вучыць, гора песенькі спяе.
Гострай галавы і меч не бярэ.
Грошы - круглая рэч: раскоціцца.

І на гладкай дарозе прыпадак можа стацца.

Як цешчы зяць хлеба ўрэжа, дык кажа: "На, бяры, бо пераломіцца", - як жонцы: "На, бо рука самлела".

Як чалавек здароўе страціць, тады яго ацэніць.
Як да любага, то - сцежкі, дрожкі, як да нялюбага, дык - дробныя слёзкі.
Як з міленькім пастаяць, то і ножкі не баляць.

Каб чалавека пазнаць, трэба з ім бочку солі з'есці.
Каб конь ведаў аб сваёй сіле, то б яго ніхто ў рукі не ўзяў.
Калі боб цвіце, а сабака ліняе, то і добры гаспадар хлеба не мае.
Калі не поп, то не ўбірайся ў рызы.
Калі ўжо падаць, дык з добрага каня.
Каменю - хоць забіся, ваду хоць заліся, дроў хоць спаліся, а прыкупіўшы хлеба - жыць можна.
Кожнай матцы свае дзеткі - мілыя.
Кожныя граблі да сябе горнуць.
Кожны млын на сваё кола ваду цягне.
Кожны праўду любіць, ды не кожны яе мае.
Крывое ды дзіравае трудна выпрастаць.
Куравыя раны дыму не баяцца

Лепей як харошы наб'е, чым брыдкі пацалуе.
Ліхі сабака і на Бога брэша.
Ліжучы не пад'ясі, а даганяўшы не пацалуешся.
Лазня чорна, а людзей мые.

Малыя дзеткі - малыя бедкі, а падрастуць дзеткі, падрастуць і бедкі.

Маладосць - буйнасць, а буйнасць - дурнасць.
Мужык жонку любіць здаровую, а брат сястру багатую.

На ўсякую рэч ёсць свая прыказка.
На злодзею і шапка гарыць.
Не хацела быць сабачая нага на стале, няхай будзе пад сталом.
Не хвалі каня запрагаючы, а дзеўку прыбіраючы.
Не кайся рана ўстаючы, а з моладу ажаніўшыся.
Няма гораў без далінаў.
Не слаўна хата вугламі, а пірагамі.

Паедзем, бабка, у чужую вёску, дык будзем ведаць, што робіцца ў нашай.
Панская хвароба - беднага здароўе.

Родная маці б'ючы ранаў не наробіць, а мачыха гледзячы параніць.
Розум - найлепшае багацце.

Слаўны бубен за гарамі, а як зблізіцца, то роўны з намі.
Сорам - не дым, вока не выб'е.
Свая маці наб'е і пашкадуе.
Сваіх многа, а як прыдзецца тапіцца, няма за каго ўчапіцца.

Шануй адзежу ўдома, адзежа цябе - у людзях.
Што край - то звычай, што старана - то навіна.

У бабы волас доўгі ды розум кароткі.
У каго дочак сем, то і доля ўсім, а ў каго адна, то і тая - жадна.
Усё можна купіць, толькі маткі за грошы не купіш.

Вялікай крыўды і чорт не любіць.
Бачыў Бог, што не даў свіні рог, але доўгія вушы, бо каб свіні рогі, то неба дастала б.

За добрым мужыком і чучала - жонка.
Дазволь дурню маліцца, то ён лоб разаб'е.
Здароўя за грошы не купіш.
Зямля - усіх нас маці: яна нас корме, яна і прыгорне.
Злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь усё забярэ.
З лысага цяляці лысы вол будзе.

Жонка не рукаво - не адпораш.
Жонку, стрэльбу і каня ў чужыя рукі не давай.

**Песні жніва**

*Ідучы ў вечары да дому, абымалі*
*жняі жальбою - песняй усё поле,*
*забывалі за ёю долю сваю, нядолю*
*і клікалі долю лепшую -*
*песняю.*

***А. Мацейчык.***

Жніво - вынік цяжкай працы за цэлы год селяніна на зямлі. Да нашага часу яно ёсць вялікай містэрыяй у жыцці селяніна. Для гэтай містэрыі складаюцца адвечныя забабоны, абрады, звычаі, вершы, спевы і г.д., больш менш аднолькавыя ва ўсім краі, але ў кожнай гміне, вёсцы, амаль што ў кожнай хаце і сям'і яны маюць незлічоныя варыянты. Перадаць часткі гэтай містэрыі ў межах аднаго артыкула альбо нават кніжкі немагчыма. Рэдакцыя "Лідскай зямлі" з задавальненнем друкуе дасланыя артыкулы, у якіх расказваецца пра творчасць тутэйшага народа і адначасова з жалем адзначае, што да браку моўных навыкаў вясковых карэспандэнтаў (маецца на ўвазе няведанне польскай мовы - *Л.Л.*) дадаецца адсутнасць ў тутэйшых друкарнях тэхнічных сродкаў графікі, каб публікаваць моўныя матэрыялы ў навуковай транскрыпцыі (адсутнасць неабходных літараў, каб лацінкай перадаць беларускую мову - *Л.Л.*). Друкаваныя ніжэй песні жней запісаў ў вёсцы Пудзіна над Нёманам Уладзімір Урбановіч у 1939 г. са слоў сваіх суседак Л. і К. Кіеняў.

Песні жней характарызуе іх працяглая, аднастайная і нават жалобная мелодыя. Усе песні жніўнага сезону маюць у народзе адну назву "Лета". Апяваюць яны працу кабеты ў полі, і яе цяжкасці, і асабістае жыццё, каханне, нязгоды ў сям'і і г.д.

**1**

Маладая малодачка (bis)
Ў бару жыта жала,
Ой, у бару жыта жала (bis)
Ды на мяжы дзіцё клала.
Прыйшоў да яе Місютачка*: (bis)
- Бог памажы, малодачка!
Плача тваё дзіцятачка. (bis)
- Ды мой жа ж, Місютачка,
Пакалышы дзіцятачка. (bis)
- Рад я быў бы пакалыхаці
Ды баюся, каб не ўдраці. (bis)

**2.**

- За бор, сонейка, за дуброву,
За высокі горы!
Бо ўжо ж ты мне прыдакучыла,
Ды раненька выходзячы,
Ды позьненька западаючы!

- Я і раненька выходзіла -
Цябе ў полі знаходзіла,
Ды пазненька западала -
Цябе ў полі пакідала.

- Бо мне свякроў, не матачка,
Ды раненька пабуджала
І да позьняга выпраўляла.

**3.**

- Ой баліць, баліць сярэдзінка
Перабіла бярчынка.
Спячы, мама, яечаньку,
Буду лячыць сярэдзінку ...

4.

- За бор, сонейка яснае!
Нахадзіліся ножкі,
Насвяціліся вочкі,
Нарабіліся ручкі.

Каб ты, сонейка,
Бывала ў найме,
Спадабала б ты мяне:
Позненька ўзыходзіла б,
Раненька заходзіла б.

- Маладая малодачка,
Не дзіві на сонейка:
Я, сонейка, выходзіла -
Цябе ў полі знаходзіла,
Я і позна западала -
Цябе ў полі пакідала.

**5.**

Ой, пайду я дарогаю
Хараша ступаючы,
Два двары мінаючы,
Да трэцяга даходзячы,
Пана Бога просячы:

- Ой дай Божа, Пане Божа,
Мне мужа харошага,
Каб я за ім піла, ела
І хараша выглядала,
У аксаміце жыта жала,
У золаце пахаджала ...

** Місютачка - Мішутачка, мядзведзь.*

*Падрыхтоўка да друку і пераклад польскіх частак тэксту -* ***Леанід Лаўрэш.***

# Шляхціцы па духу

Гурт "Тутэйшая шляхта" быў прыкметным селёта на свяце ў Бычках і ствараў каларытную атмасферу.

Мы пагутарылі з удзельнікамі гурта Андрусём Копылам і Дзянісам Сціпурай. Андрусь Копыл, саліст ансамбля, па заканчэнні хімічнага факультэта БДУ пачаў выступаць з сябрамі ў гурце.

- У рэпертуары нашага калектыва ёсць старажытныя песні з Сярэднявечча, якія мы знаходзім у архівах і бібліятэках. Касцюмы мы замаўлялі ў мастачкі Наталлі Смаляк, якая па прадстаўленых намі эскізах са зборніка вопраткі шляхты XVII-XVIII стагоддзя пашыла адмысловыя строі з чырвонага і сіняга аксаміту.



Да размовы далучылася паненка ў прыгожым галаўным уборы, падобная на князёўну. Гэта Вольга Грышчанка, мастацкі кіраўнік ансамбля, хормайстар і аўтар аранжыровак:

- Наш гурт займаецца адраджэннем музыкі шляхты. Зараз у нас пераважае кірунак - сармацкі ці шляхецкі рок. Ёсць ідэя зрабіць праграму з музыкай кампазітараў XVIII-XIX стагоддзя Напалеона Орды, Міхала Агінскага, Станіслава Манюшкі. Мы выступаем на Беларусі і ў замежжы, некаторыя нашы песні гучаць па нацыянальным радыё. Пішам песні на вершы Рыгора Барадуліна, Паўлюка Труса, Алеся Пісьмянкова, на народныя вершы, аўтары музыкі - наш заснавальнік Лявон Махнач і я.

З выканаўцамі старадаўняй музыкі і спеваў з задавальненнем фатаграфаваліся ўдзельнікі свята. Пра калектыў больш удалося даведацца з яго інтэрнэт-старонкі www.tutszlachta.ucoz.com.

Фальклорны ансамбль "Тутэйшая шляхта" быў створаны ў 1992 годзе пры Беларускім дзяржаўным універсітэце. Удзельнікамі ансамбля сталі выкладчыкі, супрацоўнікі, студэнты ўніверсітэта і проста шляхціцы па духу. Адным з заўзятараў гурта быў Віктар Іванавіч Навуменка, загадчык кафедры фізікі і матэматыкі БДУ, былы старшыня Маскоўскай арганізацыі ТБМ г. Менска. За час свайго існавання ансамбль прымаў удзел у шматлікіх канцэртах, неаднаразова гастраляваў у Польшчы, Летуве, Латвіі, Эстоніі, Украіне, Расіі. У чэрвені 2000 года ансамблю "Тутэйшая шляхта" было прысвоена ганаровае званне "Народны". У 2001 годзе пабачыў свет першы студыйны альбом. Асаблівую ўвагу ўдзяляе калектыў адраджэнню музыкі, калісь папулярнай у асяроддзі вялікаліцоўскай беларускай шляхты.

Калектыў з'яўляецца родапачынальнікам стылю "шляхетны рок". У 2011 г. выйшаў у свет другі студыйны альбом фальклорнага ансамбля. Кружэлка ўвабрала ў сябе 19 твораў, сярод якіх можна пачуць старажытныя ваенныя песні, свецкія спевы і музыку, песні мястэчковай шляхты, а таксама ўласныя творы калектыва. Выхад альбома быў прысвечаны 90-годдзю Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.



У 2013 г. у рамках фестывалю народнай творчасці "Сузор'е" ансамбль"Тутэйшая шляхта" чарговы раз пацвярджае (пасяхова) абараніў званне "Народны" і па адзінагалосным рашэнні журы стаў лаўрэатам фестывалю, тым самым атрымаўшы ганаровае званне лепшага народнага самадзейнага ансамбля г. Менска. У 2013 годзе "Тутэйшая шляхта" адзначыла 20-годдзе калектыва.

Слухачы будуць рады новым спатканням з выканаўцамі на канцэртах і грамадскіх падзеях. Вялікі канцэрт гурта плануецца ў сярэдзіне кастрычніка ў Менску.

*Эла Дзвінская,*
фота аўтара

1. Выканаўцы з гурта "Тутэйшая Шляхта" і госці Бычкаўскага свята.

2. Звіняць шаблі, дзівяцца госці.

# Гурт "Верасень": што такое стымпанк па-беларуску?



Карэтны дворык у Верхнім горадзе на некалькі гадзін стаў арэнай музычнай прэм'еры новага незвычайнага стылістычага рок-кірунку - стымпанку, які прадставіў слухачам гурт "Верасень" і яе салістка, аўтар тэкстаў і мелодый Вольга Акуліч. Стымпанк (ад англ. *steam* (пара) + *punk*) - эстэтычны кірунак у навукова-вай фантастыцы, звязаны з імаверным развіццём чалавечай цывілізацыі на аснове паравых тэхналогій і рэалій віктарыянскай эпохі.

Але гэта такі вонкавы антураж музыканатаў, які ў асноўным арыентуюцца на такія музычныя стылі, як дарквэйв, індастрыел і арт-рок. Таму многія музыканты гэтага музычнага кірунку з'яўляюцца прыхільнікамі складаных музычных формаў і сур'ёзнага падыходу да тэкстаў песень. Філасофскае асэнсаванне з'яў навакольнага жыцця, раманатызм, - а бывае сарказм і гумар, - ствараюць станоўчы эмацыянальны фон для выканаўцаў стымпанка.

Перад пачаткам канцэрту гурта "Верасень" яе лідар Вольга Акуліч, калі прадстаўляла слухачам гурт, адзначыла:

- У нас усё крыху інакш. У нас зусім іншыя абставіны, мода. Карацей, мы нязвыклыя для многіх з вас, шаноўныя слухачы. Але мы паспрабуем зразумець вас, а вы - нас!"

Вольга Акуліч адзначыла, што гэты канцэрт адбываецца ў рамках праекту "Пешаходка", які ладзіўся ў Верхнім горадзе. А адна з важнейшых мэтаў музычнай сустрэчы з гуртом "Верасень" - збор сродкаў для праекту дапамогі дзецям з невылечнымі хваробамі "Галоўнае жаданне", якім апякуецца краўдфандынгавая платформа "MaeSens"…

Калі слухачы акунуліся ў акустычную атмасферу першай кампазіцыі гурта "Верасень" - "Яблык", то адразу склалася ўражанне, што гурт шукае сваё гучанне ў канонах арт-рока. Тут слухачоў зацікавілі, а месцамі і ўзрушалі, гітарныя сола Арцёма Лабіна і клавішныя партыі Анастасіі Лабінай, дружная ігра рытм-секцыі ў складзе Зураба Кутатэладзэ (бас) і Аляксея Кулеша (бубны). І новае гучанне было даволі адрознае ад звычнага слухачам камернага, якое дамінавала ў "Верасня" ў мінулым.

А вось многія з кампазіцый гурта і Вольгі Акуліч былі ўжо знаёмыя слухачам па ранейшых запісах і кружэлках. Таму гэтыя кампазіцыі, сярод якіх "Мора", "Лета", "Смутак", "Запалі агонь", "Нешта не так", "Цябе няма", "Сцеражыся!" былі сустрэты і праводзіліся шчырымі апладысментамі тых, хто наведаў ў гэты вячаровы час Карэтны дворык. Ну а такія рытмічныя кампазіцыі гурта "Верасень", як жаночы дваравы рок-н-рол "Абцасы" і жартаўлівая "Песня жанчыны-кілера" сталі сапраўднымі гітам гэтага канцэрту і фонам для скокаў пад менскім небам.

Пасля завяршэння канцэрту гурта "Верасень", што адбываўся ў рамках праекту "Пешаходка", многія маладыя слухачы доўга не разыходзіліся, напаўнялі скрынку для ахвяраванняў сродкамі для здзяйснення дзіцячых мараў. Таксама гэта быў час пытанняў і адказаў на іх, час сэлфі з новымі зоркамі беларускай рок-музыкі. Няхай сабе і не вельмі звыклымі…




*Анатоль Мяльгуй.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

**Заснавальнік:**
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
**Адрас рэдакцыі:**
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:**
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** naszaslowa@tut.by



http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/
http://nashaslova.mns.by/



Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 1.08.2016 г. у 17.00. Замова № 1388.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1,06 руб., 3 мес.- 3,18 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.